та. Ізноў у ўрачыстасьці прымалі ўчасьце прэзыдэнт Масарык і ўвесь ўрад... „Вайна“ ізноў завастрылася.

Але вось ў працягу апошняга году, асабліва пасьля палітычнага паразуменьня чэхаў з славакамі, калі ў склад чэхаславацкага ўраду увайшлі два славацкія міністры,—урад пайшоў на нейкі нявыразны кампраміс з Ватыканам. У выніку гэтага кампрамісу, каб не завастраць далей адносінаў з папай, урад пастанавіў у сёлетнім годзе спраўляць ўрачыстасьць менш афіцыяльна... З боку ўраду быў прысутны толькі мін. Бэнэш, дый то, як піша „Кур. Варш.“, не як міністар, але як прадстаўнік партыі народных сацыялістаў. Наагул, уся ўрачыстасьць ад гэтага атрымала яшчэ больш народны характар — нейкага масавага сьвята. Пасьля царкоўных урачыстасьцяў наладжаны былі вялізарныя спартовыя сакольскія ігрышчы і т п...

Цікаўны гэты гнеў папы на гэнага беднага Гуса й на чэшскі народ, які ня хоча адмаўляцца ад сваей нацыянальнай веры. — Рымская царква спаліла Гуса жыўцом, дый цяпер яшчэ гневаецца на яго!

# У Сойме.

## Камісія Сойму проці новага прэсавага дэкрэту.

6-га ліпня юрыдычная камісія Сойму разглядала абодва ўрадавыя прэсавыя дэкрэты з 10 га мая 1927 г.

Дакладчык **п. Лібэрман** (ППС) запрапанаваў зараз-жа разглядзець толькі адзін з дэкрэтаў — той, які ўводзіць павялічаныя кары за „распаўсюджаньне фальшывых вестак“ аб дзеяльнасьці ўраду дый аб „зьняважаньні“ розных афіцыяльных і прыватных асобаў. Дакладчык выясьніў, што гэты твор заканадаўчай думкі ўраду настолькі прасякнуты паліцэйскім духам, адзначаецца такой недарэчнай жорсткасьцяй павялічаных караў (навет у прыраўнаньні да былых прэсавых скарпіёнаў у пахаваных жандармскіх манархіях!), што—зусім не адпавядае ані патрэбам дзяржавы, ані патрэбам грамадзянства. Існуючыя законы (царскія ды кайзэраўскія!) і бяз гэтага дэкрэту даволі жорсткія, каб іх яшчэ „паляпшаць“... У дадатак дэкрэт дрэнна напісаны: адзін прэсавы дэкрэт пярэчыць другому, дык выйдзе з іх толькі блутаніна...

Асабліва скрытыкаваў дакладчык артыкулы дэкрэту аб ахове асобы Прэзыдэнта, якія па сутнасьці робяць „праступнай“ наагул усялякую крытыку дзеяльнасьці Прэзыдэнта,—навет палітычна-грамадзкую. З увагі на ўсё гэтае дакладчык запрапанаваў гэты дэкрэт, як непатрэбны, шкодны і няўдалы,—**скасаваць.**

**П. Зомэрштэйн** (Жыдоўскі Клюб) востра крытыкуе дэкрэт за забарону шырэньня ня толькі „фальшывых вестак“, але і „перакручаных“... Бо-ж кожную вестку можна, прычапіўшыся добра, прызнаць перакручанай... Далей аратар выступае проці залішней „аховы“ ў дэкрэце паноў урадоўцаў — навет у галіне іх службовай дзеяльнасьці. Ня менш востра пратэстуе пасол проці дэкрэтных пастановаў аб так званых „карных загадах“, якія даюць права суду рабіць прысуды **ў адсутнасьці абвінавачанага**, ня выслухаўшы яго тлумачэньняў...

Вызваленец **п. Лыпацэвіч** згаджаецца з дакладчыкам, што арт. 4—аб залішней „ахове“ чэсьці і павагі Прэзыдэнта — зрэдагаваны недарэчна...

Эндэк **М. Сэйда** — з пункту гледжаньня... будучага эндэцкага ўраду! — вітаў-бы жорсткасьць добрага прэсавага дэкрэту, але гэты лічыць няўдалым...

Пасьля дыскусіі ўсе **прысутныя 22 сябры камісіі аднагалосна** пастанавілі запрапанаваць Сойму — **скасаваць дэкрэт.** Сойм на найбліжэйшым паседжаньні займецца аканчальным лёсам дэкрэту.

У чацьвер камісія мела прыступіць да разгляду другога дэкрэту, які рэгулюе наагул усё жыцьцё прэсы ў Польшчы. Ці Сойм не баіцца неяк — ураду?!...

### Сойм сам распачаў апрацоўваць закон аб прэсе.

Соймавая юрыдычная камісія распачала працу над праектам закону, які мае рэгуляваць жыцьцё прэсы,—замест адкінутага ўрадавага дэкрэту.

### Камісія аб выбарным праве вайсковых.

На злучаным паседжаньні камісіяў вайсковай і канстытуцыйнай Сойму аднагалосна прыняты ў трох чытаньнях праекты дадатковых законаў аб правох і абавязках афіцэраў і жаўнераў арміі. Паводле законапраектаў, усе вайсковыя — як афіцэры, таксама і жаўнеры—маюць права быць выбіранымі ў Сойм і Сэнат, але ня маюць права самі выбіраць **у законадаўчыя палаты.** Ні афіцэры, ні жаўнеры ня маюць права наагул прымаць **ніякага ўчасьця ў выбарах у самаўрады** — ані выбіраць, ані быць выбранымі.

### Ці ўжо няма страху перад „батам“?!

Як ведама, урад—проці таго, каб Сойм працаваў над новым законам аб самаўрадах. Але Сойм усьцяж працуе...

Дык вось, каб пастрашыць паслоў, „бутэрбродная“ прэса пусьціла чуткі, што вось заўтра (у тую пятніцу) мае прыехаць у Сойм сам маршалак Пілсудскі — „з батам“ дый з тэй самай „паперкай“ у кішані, якая яшчэ нядаўна так „магічна“ (—як каса ў руках сьмерці—) дзеяла на паноў паслоў (—бо ў „паперцы“ быццам быў дэкрэт п. Прэзыдэнта аб роспуску Сойму)! Тады паны паслы йшлі на ўсялякія рэчы, каб толькі ўтрымацца „пры жыцьці“...

Як апавядае „Роботнік“, у Сойм—у часе дакладу п. Патка аб гэным законе—панаехала шмат розных „уладаў бясьпечнасьці“, папросту—вышэйшай паліцыі, з міністрамі, з „віцамі“ і бяз „віцаў“... Пэўна ж палова паслоў дрыжэла, як на страшным судзе... Але марш. Пілсудскі ня прыехаў... „Роботнік“ тлумачыць гэта тым, што цяпер паслы не баяцца больш — ані маршалкоўскага „бата“, ані — разгону Сойму... Быццам прайшлі ўжо часы страху... У канцы газэты дзівяцца, чаму гэта ў Польшчы, калі прыяжджае ў парлямант „парлямантарны“ прэм'ер, дый яшчэ — тварэц польскіх легіёнаў, дык заўсёды—з такой „паліцэйскай помпай“, з камісарам ураду, яго заступнікам і т. п.

### Праект зьмены парляманцкага выбарнага закону

7-га ліпня падкамісія канстытуцыйнай камісіі разглядала ізноў перароблены праект п. Попеля аб зьмене выбарнага закону да Сойму і Сэнату. На паседжаньне зьявіліся толькі прадстаўнікі правіцы, Пяста, „Работнікаў-Нацыяналістаў“, Жыдоўскага Кола і буржуазных украінскіх групаў. Прадстаўнікі ППС, Вызваленьня, рэшта меншасьцяў і навет польскія „сельсаюзьнікі“ пілсудчыкі не зьявіліся. Гэтым было сцьверджана сарваньне „паразуменьня“ польскіх партыяў у справе рэформы выбарнага закону, на якое так спадзяваліся эндэкі й пястоўцы... Аднак-жа гэта зусім ня спыніла „працы“ падкамісіі. Яна пачала галасаваць новы „лепшы“ праект п. Попеля, які і быў прыняты „аднагалосна“ польскімі правіцай і цэнтрам.

Паводле новага праекту, у Сойме мае быць 412 паслоў — на 32 менш, чым цяпер, ды коштам нацыянальных меншасьцяў... Сэнатараў мае быць толькі 103. Рэшта артыкулаў праекту, ведамага ўжо нашым чытачом, прынята бяз зьменаў.

12-га ліпня мае адбыцца паседжаньне поўнай канстытуцыйнай камісіі, на якім яе старшыня п. Гломбіньскі зрэфэруе новы праект. Пэўне-ж такая ж большасьць галасоў, створаная для арганізаванага пагвалчэньня Канстытуцыі і правоў меншасьцяў, „загарантаваных“ саюзьнікамі, — знойдзецца і там...

### „Кваліфікацыі“ для вучыцялёў пачатковых школ на „Крэсах“.

1-га жніўня канчаецца тэрмін, да якога некваліфікаваныя вучыцялі пачатковых школ у Польшчы павінны былі здаць вымаганыя ўрадам экзамены. Дзеля таго, што маса вучыцялёў, панабіраных, асабліва для „крэсаў“, папросту з вуліцы (абы паляк!), экзаменаў не здала, асьветная камісія Сойму прыняла пастанову аб адкладзе тэрміну экзаменаў для Польшчы да 1929 г., а для „Крэсаў“ да 1930 г.

## Сэнсацыйная заява францускай газэты.

У аднэй з паважных нямецкіх газэт — (органе партыі самога Штрэзэмана!) зьмешчаны артыкул, які вельмі востра трэбуе ад Францыі ліквідацыі акупацыі нямецкай зямлі, бо акупацыя яўна нарушае трактаты паразуменьня між абыдвума краямі. Пры гэтым газэта выразна кажа, што за скасаваньне бяспраўнай цяпер акупацыі **Нямеччына ня будзе плаціць ніякай кампэнсацыяй на Усходзе,** чаго быццам трэбуе Пуанкарэ... Гэта значыць, што акупацыя павінна быць скасавана бяз прызнаньня Нямеччынай „польскага калідору“, ды наагул — сучасных граніцаў Польшчы...

Француская прэса абурана гэтым „узнаўленьнем прапаганды перагляду польска-нямецкіх граніцаў“... Але вось адна з парыжскіх газэт, „Эвр“, наагул прыхільная больш да Нямеччыны, чым да Польшчы, заяўляе, што **для Францыі прыязьнь з Нямеччынай — значна важней, чым з Польшчай.** Дык хутчэй трэба скасаваць „польскі калідор“ (Гданскі), чым дапусьціць злучэньне Нямеччыны з Аўстрыяй...

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

### Якую пазыку далі Польшчы.

Замест праектаванай вялікшай доўгатэрміновай пазыкі—у ліку 60-70 мільён. даляраў, якая адложана на неазначаны час, банкіры далі Польскаму Банку толькі 15 мільёнаў, як „валютны запас“—дзеля забясьпечаньня злотага ад пагражаючага яму краху. Дый датаго-ж гэтая пазыка—кароткасрочная, толькі на паўгоду. Гэткім чынам пазыка толькі ў пэўнай меры страхуе польскую валюту ад спадку, але па-за гэтым не дае нічога для разьвіцьця гаспадарчага жыцьця краю.

Вось на чым скончыліся ўсе даўгія гутаркі аб вялікай пазыцы для ўраду марш. Пілсудскага... З гэтай пазыкі ясна, наскольки паважнай была ўжо пагроза для курсу польскага злотага...

### Дарагоўля ў Варшаве.

Урадавая ўстанова для аблічаваньня коштаў утрыманьня сцьвярдзіла, што Варшава ёсьць найдаражэйшае места ў-ва ўсей Польшчы. Калі прыняць даваенныя кошты утрыманьня за 100, дык цяпер у Варшаве тыя-ж патрэбныя для жыцьця рэчы каштуюць 250. Гэта значыць, што ў Варшаве свой уласны польскі ўрад стварыў жыцьцё даражэйшым **у паўтраця раза!**

А яшчэ нядаўна „Роботнік“ аблічыў, што работніцкія заробкі цяпер у Польшчы значна ніжэйшыя, чым перадваенныя...

„Вось тут і жыві“, як прыпяваў калісьці Купала.

### Разумеюць добра, калі датычыць іх!

Эндэцкі „Кур. Варш.“ зьмяшчае тэлеграму свайго пражскага карэспандэнта аб тым, што чэхаславацкі ўрад афіцыяльна абяцаў назначыць у Цешынскім окрузе, дзе ёсьць польская меншасьць, школьнага інспэктара паляка.

Газэта польскіх готэнтотаў дадае: „гэта-ж першы крок, за якім маюць наступіць далейшыя ў кірунку здаваленьня патрэбаў польскай меншасьці, што робіць магчымай ляяльнасьць гэтай меншасьці адносна да Чэхаславацкай Рэспублікі, а таксама — збліжэньне між абедзьвюма дзяржавамі“...

Для сябе гэтыя готэнтоты ставяць ляяльнасьць польскай меншасьці ў Чэхаславакіі ў залежнасьць ад здаваленьня яе патрэбаў, правоў і інтарэсаў, навет і ня думаючы дарма аддаваць гэтую ляяльнасьць дзеля пекных воч Найясьнейшай Чэхаславацкай Рэспублікі... А ў сябе, для „сваіх“ меншасьцяў, гэтыя готэнтоты вымагаюць, каб меншасьці толькі й жылі польскімі „дзяржаўнымі трыумфамі“ ды цалавалі панскую руку „прыроджаных валадароў“.

### Кангрэс „Пяста“ ў Пазнані.

8 ліпня распачаўся ў Пазнані агульна-польскі кангрэс партыі Пяста.

Палітычны даклад зрабіў п. Вітас, які азначыў адносіны партыі да ўраду, як „крытычныя“, прычым клюб пястоўцаў падтрымлівае ўсе ўрадавыя пачынаньні, калі яны—карысны для дзяржавы...

Пасьля дакладаў іншых павадыроў прыняты рад рэзалюцыяў.

Рэзалюцыя ў справе замежнай палітыкі Польшчы трэбуе, каб яна была абаперта на справядлівасьці і непахільнасьці трактатаў (можа таксама так-зван. і „Дадатковага Трактату 28 чэрвеня 1919 г., гарантуючага правы меншасьцяў у Польшчы, які дагэтуль яшчэ неяк „не ўвайшоў у сілу“, ня гледзячы на падпісы саюзных дзяржаў і Польшчы)?!. На справядлівасьці,—зразумела,—для Польшчы! Аб справядлівасьці ў унутранай палітыцы „Пяст“ рэзалюцыі не злажыў... Замест гэтага кангрэс прыняў рэзалюцыю аб зьмене парляманцкага выбарнага закону — у напрамку які... нарушае, як „непахільнасьць трактату“, што гарантуе правы меншасьцяў, так і тую-ж справядлівасьць адносна да іх...

Пасьля адна па аднэй прыняты рэзалюцыі: аб „аздараўленьні польскага парлямантарызму“, ці, прасьцей: аб далейшым абмяжаваньні правоў парляманту і дэмакратыі ў Польшчы; аб выражэньні ўдзячнасьці старшыні Сойму п. Ратаю — за... „абарону дэмакратыі і парлямантарызма ў Польшчы“, ды іншыя.

### Справа генарала Жымерскага.

У варшаўскім ваенным судзе разглядаецца скандальная справа ген. Жымерскага, якога вінаваціць у цэлым радзе надужыцьцяў ды хабароў пры пастаўках для арміі. Сьведкі рысуюць запраўды-ж агідны абраз парадкаў, якія завёў ген. Жымерскі ў зносінах з пастаўшчыкамі.

### Польскія лятуны звольнены з Менску.

Нядаўна 2 польскія лятуны, афіцэры польскай арміі, спусьціліся ў Менску, у поўным перакананьні, што прыляцелі ў... Вільню! Зразумела, няўдалыя лятуны былі зараз-жа інтэрнаваны ваеннай уладай. Цяпер польскі ўрад атрымаў паведамленьне, што яны звольнены.

# Палітычны хаос у Францыі.

*(Пісьмо з Парыжа.)*

Ня гледзячы на бясспрэчныя заслугі коаліцыйнага ўраду п. Пуанкарэ ў галіне ўрэгуляваньня францускіх фінансаў, ураду яе ўсьцяж пагражае недаверые палаты і ўпадак.

Трэба ведаць, што свайго ворага, Пуанкарэ, запрасілі да ўлады, каб ратаваць край ад банкруцтва,—самі радыкалы, якія мелі ды маюць значную большасьць у абедзьвюх палатах... Запрасілі дзеля таго, што—збанкрутавалі самі. Дык стварылася дзіўнае палажэньне: п. Пуанкарэ з яго міністрамі-нацыяналістамі трымаецца толькі сваей „маральна-тэхнічнай вагой“, як непараўнаны спэцыяліст, працаўнік, арганізатар, датаго-ж з вялізарнай папулярнасьцяй у краі, але сам Пуанкарэ і яго бліжэйшыя памочнікі-міністры ня маюць **палітычнай апоры** ў большасьці парляманту. Дык, пакуль урад Пуанкарэ працуе і робіць свае бліскучыя фінансавыя пасьпехі, усё ідзе добра, і палаты дзякуюць яму. Але—як толькі Пуанкарэ пачне зачапляць „палітыку“, дый яшчэ—унутраную, датыкацца партыйнага жыцьця краю,—зараз-жа сярод партыяў пачынаюцца спрэчкі ды сваркі, якія могуць, не шкадуючы добрага „спэца“, зваліць яго ўрад у адзін пекны дзень!

---

Падаю некалькі яркіх цыфраў — дзеля прыраўнаньня дзьвюх фінансавых гаспадарак: папярэдніх (радыкальна-буржуазнага з часовым падтрыманьнем сацыялістаў) і цяперашняга (—коаліцыйна-буржуазнага з перавагай правіцы) ўрадаў.

Якраз у канцы ліпня скончыцца год, як працуе ўрад Пуанкарэ. Каб падмацаваць яго хістаючуюся пазіцыю, адзін з міністраў пана Пуанкарэ, яго партыйны прыяцель п. Тардье, у публічнай прамове падлічыў усе фінансавыя пасьпехі ўраду за год.

Пуанкарэ прыняў скарб Францыі, калі ў ім было толькі каля 1 мільёна франкаў гатоўкі... Гэта-ж—пры тых вялізарных сплатах заграничных і ўнутраных даўгоў, якія павінна была рабіць Францыя, азначала ня-больш-няменш, як—поўнае дзяржаўнае банкруцтва!.. Цяпер зусім зразумела, чаму паны радыкалы, атрымаўшыя такую бліскучую перамогу на выбарах, маючы ў сваіх руках абедзьве ўсемагутныя палаты Францыі, пасьля бясслаўнай гаспадаркі ў краі, далі самі амаль ня дыктатарскую ўладу свайму палітычнаму ворагу, павадыру францускага ваяўнічага нацыяналізму і мілітарызму — пану Пуанкарэ...

Гэтым актам палітычнага самагубства парляманцкай большасьці францускі парлямантарызм расьпісаўся ў сваім бункруцтве...

За год працы—пры поўнай пакорнасьці большасьці парляманту павадырам .. ягонае меншасьці!—Пуанкарэ зрабіў тое, што цяпер у касах францускага скарбу ляжыць запас у ліку 11 мільярдаў з лішкам франкаў...

У ліпні 1926 г. францускі скарб быў „пад гільятынай пазыковых сплатаў“ кароткатэрміновых, забойчых для скарбу“, пазык банкрута“... Цяпер Францыя ня мае зусім каротка-срочных даўгоў: усе пазыкі перапісаны на даўгія тэрміны.—Дзеля таго ў 1927 г.—заместа 8 мільярдаў франкаў сплат і працэнтаў—трэба плаціць толькі 1 мільярд; у 1928—замест 8 мільярд.—толькі 3—і т. д... Апрача таго, за 10 месяцаў працы Пуанкарэ Францыя сплаціла 6 мільярд. заграничнага доўгу... Апрача таго, францускі скарб мае ў с у распараджэньні на 25 мільярдаў фр. заграничнай валюты. А ў ліпні 1926 г. на гэтым мейсцы было—0...

Зразумела, што—побач з гэткай папраўкай дзяржаўных фінансаў—папраўіўся значна і курс розных дзяржаўных і прыватных грашовых папераў. Папраўка фінансаў дала магчымасьць ураду падвысіць амаль ня ў 3 разы (так казаў, прынамся, мін. Тардье...) пэнсіі дзяржаўным урадоўцам, якія з прычыны зьніжэньня курсу франка прост галадаюць, ды значна павялічыць асыгноўкі на ўтрыманьне пэнсіянераў, інвалідаў і г. д. А гэта, зразумела, яшчэ больш падняло аўтарытэт і папулярнасьць п. Пункарэ ў краі.

---

І вось, францускі парлямант так цяпер абураны ды раззлаваны, што гатоў забыць усе гэтыя заслугі ўраду і даць яму адстаўку.

Што-ж сталася?

З аднаго боку клапотаў ураду нарабіў ведамы скандаліст п. Додэ з сваімі „каралеўскімі малайцамі“, а з другога, ну,—ці-ж трэба казаць? — Ясна: камуністы... Дык адна палова парляманту лае ўрад за яго недарэчную, нелягічную ды нэрвовую палітыку адносна да манархістаў, другая—да камуністаў.

Справа ў тым, што — пасьля скандальнай „уцечкі“ п. Додэ з парыжскага вастрогу—урад, ратуючыся ад насьмешкаў усяго краю, захацеў „адыграцца“ на тых, каго здолеў схапіць: бяспраўна быў арыштаваны рэдактар газэты Додэ „Аксіон Франсэз“, дый яшче—бедная тэлефаністка, якую пракурор падазравае ў „змове“ з Додэ! Тэлефаністка мае 4 месячнае дзіця, ды разам з ім сядзіць у турме... Гэтага францускія „рыцары“ не маглі зьнясьці. Тым больш, што рэдактар і гэтая маладая матка былі пасаджаны ў супольную камэру — з звычайнымі ўгалоўнымі праступнікамі... Гэта выклікала страшэннае абурэньне ў францускім грамадзянстве. У парляманьце быў пададзены рад інтэрпэляцыяў. Вось, адказываючы на гэтыя інтэрпэляцыі, урад і можа спаткнуцца ды зламаць сабе нагу.

Хістлявая тактыка ўраду адносна да камуністаў таксама абурае правую, ці наагул—буржуазную большасьць парляманту. Ведаючы сілу камуністаў, якіх тактычна падтрымліваюць ад выпадку да выпадку сацыялісты, урад баіцца прымаць проці іх рашучыя меры, тым больш, што буржуазія трэбуе мераў, на якія не дае ўраду права канстытуцыя краю...

Дык урад круціцца паміж дзьвюма тактыкамі, ня ведаючы, на якой спыніцца. Даецца ўзнакі і мяшаны „коаліцыйны“ — склад ураду, добры ў тэхнічных, як фінансавая, справах, але—забойчы ў справах палітычных. Міністар справядлівасьці публічна гразіў, што „заарыштуе камуністычных павадыроў, як толькі яны прыедуць з францускіх калёніяў, дзе вядуць проці-дзяржаўную прапаганду“... Але вось ободва павадыры прыехалі ў Парыж, гавораць публічна прамовы, а міністар справядлівасьці ўсьцяж „шукае“ іх праз паліцыю... Ведама, бяз згоды парляманту ўрад ня мае права іх арыштаваць. А парлямант — то сяньня выдае, то заўтра касуе сваю пастанову, ды звальняе ізноў з вастрогу паслоў.—Радыкальны цэнтр, перакідаючыся то ўлева, то ўправа, галасуе то з правіцай Пуанкарэ, то з лявіцай Блюма (сацыялісты) і Кашэна (камун.)...

Гэткім чынам, стварылася палажэньне, якое можа з прычыны нейкага дробнага выпадку пры галасаваньні выклікаць упадак габінэту Пуанкарэ.

**Кандратовіч.**

Парыж, 7. VII. 27.

